Мы бачым, як адначасна з антыбеларускай дэманстрацыяй рэпрэсіўнага рэжыму, людзі, наадварот, перастаюць яго баяцца. Паволі мінае страх, высьпявае пратэст і вяртаецца чалавечая годнасьць. Гэта ластаўка пераменаў. Мы павінны сур'ёзна, як некалі, рыхтавацца і быць гатовымі браць лёс Бацькаўшчыны на свае плечы.

Віншую з 20-годдзем Незалежнасьці!

Жыве Беларусь!

Слава героям!

***Зянон Пазьняк***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*27 жніўня 2011 г.*

# АБ НЕБЯСЬПЕЧНАСЬЦІ КІРУЮЧАГА РЭЖЫМУ

Фінансавы крызіс, які пачаўся ў Беларусі з пачатку 2011 года, не зьвязаны з агульным сусьветным фінансава-эканамічным крызісам. Ён выкліканы мэтанакіраванай палітыкай Расеі супраць Беларусі і справакаваны рэжымам Лукашэнкі. Мэта такіх дзеяньняў Масквы – разбурыць беларускую фінансава-крэдытную сістэму, абясцэніць беларускі рубель, паралізаваць выплаты па пазыках і падвесьці краіну да дэфолту. У выніку – прымусіць рэжым прадаваць за бясцэнь прыбытковыя прадпрыемствы і завалодаць беларускай эканомікай.

Другі аспэкт гэтай палітыкі, -- выклікаўшы беспрацоўе і зьбядненьне беларускага народа пасьля велізарнай дэвальвацыі рубля, сьцягнуць беларускую рабочую сілу ў Расею (праз незаконна адчыненую Лукашэнкам мяжу), пакінуўшы Беларусь на скананьне, а яе эканоміку на лёгкую здабычу рускім алігархам.

Фінансаваму крызісу папярэднічалі штучна створаныя Расеяй так званыя "газавыя", "нафтавыя", "малочныя", "мясныя", "цукровыя" і іншыя "войны", уступленьне ў шкодны для Беларусі мытны саюз Расеі і Казахстана, маніпуляцыі рэжыму Лукашэнкі з валютай і рублём у час абясцэньваньня рубля.

Антыбеларуская палітыка Лукашэнкі справакавала і падрыхтавала разбуральныя дзеяньні Расеі супроць Беларусі.

Улада ў Менску ўвесь час дэманструе няздольнасьць і нежаданьне выправіць становішча. Аўтарытарная дзейнасьць гэтага рэжыму стала вельмі небясьпечнай для дзяржаўных і нацыянальных інтарэсаў Беларусі.

Дзеля выпраўленьня становішча мусяць быць хуткія і радыкальныя захады. Першым дзеяньнем такіх захадаў павінна стаць дабраахвотная адстаўка Лукашэнкі. Лукашэнка мусіць тэрмінова пакінуць пасаду. Выпраўляць правал павінны іншыя людзі.

***XI Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і IX Зьезд Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*27 жніўня 2011 г.*
*г. Менск*

# ЗВАРОТ
## ДА ПАРЛЯМАНТАРОЎ, УРАДАЎ, ЭКАНАМІЧНЫХ СТРУКТУРАЎ КРАІН СЬВЕТУ

У Рэспубліцы Беларусь усталяваны нелегітымная, недэмакратычная, чужая інтарэсам беларускага народу ўлада. Гэтая ўлада абслугоўвае свае ўласныя інтарэсы і інтарэсы кіруючых колаў Расейскай Фэдэрацыі. Паводзіны гэтай улады ў Беларусі больш падобныя на паводзіны акупацыйнай адміністрацыі.

Беларускі народ пазбаўлены права свабоднага волевыяўленьня. Усе выбары, што праводзяцца структурамі рэжыму, фальсіфікуюцца. Эканамічная палітыка праводзіцца насуперак інтарэсам беларускай дзяржавы і народа. Штучна ствараюцца ўмовы, якія спрыяюць перадачы беларускай маёмасьці суб'ектам гаспадараньня Расейскай Фэдэрацыі па значна заніжаных коштах. Такія дзеяньні нельга прызнаць законнымі, такія зьдзелкі зьяўляюцца нікчэмнымі.

Мы папярэджваем, што пры аднаўленьні ў Беларусі законнасьці гэтыя зьдзелкі будуць ануляваныя ў адпаведнасьці з унутраным заканадаўствам і міжнародным правам.

***XI Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і IX Зьезд Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*27 жніўня 2011г.*
*г. Менск*

# АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Галоўным чыньнікам, які кансалідуе і стварае нацыю, ёсьць нацыянальная мова плюс памяць гісторыі. З усьведамленьнем важнасьці мовы ствараліся ўсе эўрапейскія нацыі. Выключэньнем сталіся ірляндцы, якіх у змаганьні з Англіяй акрамя гісторыі лучыла прыналежнасьць да каталіцызму, і габрэі, у якіх кансалідуючым прыярытэтам ёсьць прыналежнасьць да вялікай біблійнай гісторыі.

Беларусь – тыповая эўрапейская краіна з традыцыйнымі каштоўнасьцямі нацыі, якая існуе (ці патэнцыйна існуе) пакуль жыве мова.

Двухсотгадовая расейская акупацыя засьведчыла, што менавіта беларуская мова была галоўным аб'ектам зьнішчэньня з боку ўсёй рускай палітыкі і імпэрскай ідэалёгіі.

Аналіз паказвае, што антыбеларускі рэжым унутранай акупацыі нашай краіны за 17 гадоў мэтанакіраванага этнацыду вынішчыў беларускую мову ў Беларусі больш, чым рускі камунізм за 73 гады савецкай улады.

Нацыя спынілася ў духоўным разьвіцьці. Прыкмета дэградацыі – хуткае выміраньне насельніцтва (духоўна прагрэсуючая нацыя не вымірае). Кожны дзень існаваньня ўлады цемры ў Беларусі аплочваецца сьмерцю сотняў беларусаў.

Мы зьвяртаемся да моладзі і да адукаваных людзей, да эліты грамадзтва: шануйма беларускую мову, паважайце яе нават калі на ёй не гаворыце, бо гэта наша мова, яна сфармавала наш генатып, на ёй некалі размаўляла ўся Усходняя Эўропа. Чытайце, пішэце, гаварэце па-беларуску, каб захаваць сваю будучыню, каб адрадзіць веліч нашай Беларусі.

***XI Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і IX Зьезд Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*27 жніўня 2011 г.*
*г. Менск*

# АБ НЕДАПУШЧЭНЬНІ ПАБУДОВЫ АТАМНАЙ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ

Чарнобыльская катастрофа – вялікая трагедыя Беларусі, якая будзе нішчыць людзей стагоддзямі. Задача кожнай улады, грамадзтва і пакаленьня – запабегчы, зьменшыць чарнобыльскае разбурэньне. Але мы бачым, што антыбеларускі рэжым сваімі дзеяньнямі і кіраваньнем наадварот

павялічвае разбуральны ўплыў чарнобыльскай радыяцыі на беларусаў. У гэтым сутнасьць антыбеларускай улады.

Цяпер яна рыхтуе беларусам новы Чарнобыль і новую радыяцыйную небясьпеку – працягвае прысьпешваць будаўніцтва, фактычна, чужой АЭС на нашай тэрыторыі. АЭС запраектавана ў сэйсмічнай зоне пад Астраўцом. Да таго ж спэцыялісты паказваюць на адсутнасьць эканамічнай мэтазгоднасьці пабудовы АЭС на тэрыторыі Беларусі.

Мы зьвяртаем увагу беларусаў на сьмяртэльную небясьпеку для людзей, на недапушчальнасьць будаўніцтва Атамнай станцыі ў Беларусі.

***XI Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"***
***і IX Зьезд Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

*27 жніўня 2011 г.*
*г. Менск*

# СЬВЯТА ПРЫХІЛЬНІКАЎ МАСТАЦТВА

Новы 2011 год для беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку пачаўся прыемнай падзеяй. 16-га студзеня тут адчынілася выстава віленскага беларускага мастака Алега Аблажэя. Вернісаж адбыўся ў выдатнай грамадзкай залі Беларускай царквы сьвятога Кірылы Тураўскага на Атлянтык эвеню, 401. Арганізавалі прыезд мастака і выставу энтузіясты царкоўнай парафіі і Бруклінскага аддзелу БАЗА. У экспазыцыі каля паўсотні твораў. Гэта малюнкі сангінай, акрылам, алоўкам, пастэльлю, чарнілам; тут акварэлі, ілюстрацыі да кніг, партрэты з натуры. Асабліва шмат твораў, аб'яднаных тэматыкай "вечна жаноцкае" – вобразы жаночага хараства, якія ўразілі ўсіх сваёй дасканаласьцю прыгожых абліччаў, фантастычнасьцю адзеньня, сьветлай эстэтыкай, чысьцінёй і высокародзтвам. Як казалі прысутныя, ад іх вее ўзвышанасьцю і шляхецтвам Вялікага Княства.

У сваім уступным слове Алег Аблажэй, выказаў падзяку і сваё шанаваньне людзям, якія спрычыніліся да яго экспэдыцыі ў Амэрыку і адзначыў, што значная частка з прывезеных ім твораў – ілюстрацыі. "Я сам пішу казкі і ілюструю іх, -- сказаў мастак, -- шмат займаюся партрэтам, бо лічу гэта адным з найбольш істотных жанраў у мастацтве. Малюючы нечы партрэт, ты пазнаеш ня толькі свой "аб'ект", а і самога сябе. І адраджэньне жывапісу, я думаю, пачнецца менавіта з партрэту."

Спадар Алег расказаў пра беларускае жыцьцё ў Вільні, пра Таварыства Беларускай Культуры, якім кіруе Хведар Нюнька, перадаў прывітаньне ад беларусаў Вільні.

Творчасьць Алега Аблажэя, і яго месца ў сучасным мастацкім працэсе прадставіў доктар мастацтвазнаўства **Зянон Пазьняк**. Выстава сталася таксама нагодай пагаварыць у цэлым пра праблемы разьвіцьця выяўленчага мастацтва, бо творчасьць Алега Аблажэя, на думку Зянона Пазьняка, дае падставы для сур'ёзнай і прыемнай размовы аб мастацтве.

"Сучаснае мастацтва, яго асяроддзе перажывае вялікі крызіс – крызіс эстэтыкі, перш за ўсё. І гэты крызіс закрануў увесь сьвет, усё мастацтва, -- падкрэсьліў З. Пазьняк. -- Найбольш гэта даткнулася Эўропы, і Беларусь цяпер засталася пакуль што востравам чыстасьці ў мастацтве, востравам хараства, які паступова размываецца новымі хвалямі дэградацыі, бізнэсовых адносінаў, геданістычнага запатрабаваньня асобы, -- тэндэнцыяй, якая зьявілася ў новым сьвеце. Мастацтва, якое паказвае нам Алег і якое ёсьць на Беларусі і гуртуецца вакол суполкі "Пагоня (мы бачылі тут раней творы і Батальёнка, і Шатохіна, і Марачкіна і інш., якія прыязджалі ў Нью-Ёрк з выставамі). Гэтае мастацтва -- сфэра высокага хараства, якое зараз павінна абараняць свае пазыцыі."

"На Беларусі, -- развažae далей Зянон Пазьняк, -- яшчэ існуе добрая мастацкая школа, ёсьць творчыя традыцыі, існуюць харошыя мастакі. Але яны вымушаныя выжываць і змагацца, каб у гэтым сьвеце трымаць пазыцыі эстэтыкі, бо высокае мастацтва сябе, практычна, не акупляе, яго трэба падтрымліваць, павінны быць мецэнаты. Мастацтва ня можа існаваць без мастацкага асяроддзя, без падтрымкі дзяржавы, без грамадзкай патрэбы ў творчасьці мастакоў.

Вялікія беларускія мастакі робяць выдатныя творы, але пра іх мала хто ведае ў сьвеце, мала пішуць, не ўяўляюць каштоўнасьці іхняе творчасьці. На пярэдні плян усюды выйшла прымітыўнае, антыэстэтычнае і крыклівае не мастацтва. Пра яго пішуць (прынамсі на Захадзе)."

Зянон Пазьняк вылучыў некалькі прычынаў такога становішча. Найперш, цяжкая культурная сытуацыя непасрэдна зьвязаная з палітычным станам, які ёсьць цяпер ў Беларусі; другое, – гэта слабасьць нашага мастацтвазнаўства, бо моцнае мастацтвазнаўства ўздымае і папулярызуе мастацтва, стварае вядомасьць мастакам, яно выводзіць іх на пэўны ўзровень, і грамадзтва ўспрымае тое, што гаворыць мастацтвазнаўца.

Адна з прычынаў няўважлівасьці да сябе, на думку Зянона Пазьняка, гэта яшчэ і вынік нашай беларускай мэнтальнасьці. "Мы проста не прывучаныя актыўна падтрымліваць сваіх радакоў, радвацца іхнім посьпехам і усюды іх прапагандаваць. Наша мэнтальнасьць такая: зрабілі – і добра. Сябе не прынята паказваць. Хай іншыя заўважаць. А іншыя, калі і заўважаць, то маўчаць. Ня ўмеюць ні падзякваць, ні пахваліць (і асабліва сваіх), ні парадвацца дасягненьню свайго земляка".



*6. Алег Аблажэй. Танец у чырвонай сукні (сангіна, пяро).*

Зьвяртаючыся да выставы А. Аблажэя, Зянон Пазьняк падкрэсьліў, што "гэта мастак вельмі добрага клясу. Ён мае харошую мастацкую і эстэтычную школу, выпрацаваную эстэтычную пазыцыю, яго творы ілюструюць вытанчаны мастацкі ўзровень. Лёс мастака склаўся так, што ён апынуўся зараз, практычна, за межамі Рэспублікі Беларусь, у асяроддзі сваістым, але чужым. І тут ёсьць праблемы."

Узіраючыся ў выстаўленыя творы, мастацтвазнаўца зьвярнуў ўвагу на казачныя жаночыя партрэты, на майстэрства мастака ў перадачы аблічча і постаці дзівосных прыгожых жанчын, на прыгожа распісанае іхняе ад-



*7. Алег Аблажэй. Казачная кампазыцыя (сангіна, пяро).*

зеньне. “Мастак, які ўмее так маляваць, добра навучаны, у яго высокі ўзровень майстэрства, -- яшчэ раз падкрэсьліў З. Пазьняк. – Тут ёсьць касьцюмы фантастычныя на аснове ўзораў 16-га стагоддзя, і ўсё так прыгожа і стылёва зроблена. У гэтых віртуозных фантазіях выкарыстоўваецца і беларускі народны строй, і стылістыка італьянскага рэнесансу, і нават нешта грэчаска-егіпецкае ёсьць.”

Саму сутнасьць мастака, яго мастацкае крэда З. Пазьняк акрэсьліў як канцэпцыю абароны харастваў мастацтве, якую мастак сцьвярджае сваёй творчасьцю, сваім прыкладам. “Перад намі мастак, які сьведама абараняе красу, абараняе эстэтыку ў антыэстэтычным сучасным асяроддзі. Таму невыпадкова, што ён зьвярнуўся да вечна жаноцкага. У жанчыне закладзены ідэал Боскага харастваў, і задача мастака – раскрыць гэты ідэал. Алег Аблажэй адчыняе красу як частку ісьціны (праўды), бо ісьціна ёсьць Боская сутнасьць, ісьціна заўсёды прыгожая”, -- адзначыў Зянон Пазьняк.

Тое, што прадставіў на выставе Алег Аблажэй, вельмі блізка нашай нацыянальнай прыродзе ўспрыняцьця, нашай нацыянальнай культуры і традыцыі. Жаночыя вобразы мастака (у ілюстрацыях да казак, у эцюдах да танца, у акварэлях і г. д.) -- гэта ўсё вобразы узвышаныя, прыгожыя і чыстыя. “Яго вобразы ня зводзяцца толькі да выяўленьня фізічнай прыгажосьці – гэта вобразы ідэалу, якія набліжаюцца да Анёла ў сваім харастве, -- сказаў выступоўца. -- І ня важна, ці яны аголеныя, ці драпіраваныя ў адзеньне, якое ён сам прыдумвае. Тут выдуманыя ім постаці, уяўленьні аб чыстасьці, цноце і ідэалу”.

Некалькі твораў, экспанаваных на выставе зьвязаныя з танцам. (Напрыклад, “жанчына з гітарай” у дзівосным строі, ці некалькі эцюдаў з прыгожым выяўленьнем пластыкі і рытму танца.

На выставе экспанавалася некалькі акварэляў. Асаблівую ўвагу З. Пазьняк зьвярнуў на акварэльны ліст “Дрэвы”. Ён адзначыў, што вечна зялёная сасна ў Аблажэя дае няўлоўнае адчуваньне вечнасьці і сьвежага паветра (гэтага вечнага шуму хвой). У тонкіх адчуваньнях часта выяўляецца душа мастака (уменьне адчуць прадметна не існуючае). “Сутнасьць мастака выяўляецца ў творчасьці незалежна ад таго, якую ён ставіць задачу. Тое, што існуе ў ягонай душы (тып духа, характар успрыняцьця сьвету) часта ваяўляецца ў карціне (творы) і, як правіла, ў духу ўсёй творчасьці мастака.”

І яшчэ адна выява, на якую зьвярнуў увагу мастацтвазнаўца. Гэта карціна “Апошні прыпынак” (жанчына, якая ноччу на прыпынку бяжыць за аўтобусам, які ад’язджае). “І сымвалічная фігура, і каларыстыка, і кампазыцыя – усё тут выяўлена арыгінальна і цікава, -- адзначыў З. Пазьняк. -- Гэта сюжэт фатаграфіі, але ўвасоблены ў жывапісе, прытым надзвычай сымвалічна і экспрэсіўна. Аблічча жанчыны не відаць, але сама постаць (хоць і ў банальных” сацыяльных “ абставінах) сьведчыць пра высакародзтва асобы, і пакідае адчуваньне нечага нерэальнага, успрымаецца, нібы нейкі экспрэсіўны “сюр”.

Каларыстычна цікавыя тут, на выставе, цыклы “Поры года”, і сэрыя прыгожых жаночых вобразаў – гэта цуд радасьці. Вобразы вельмі пазнавальныя, бо пісаныя з натуры (такіх дзяўчат мы бачым у жыцьці). Яны этнічна прыналежныя, -- падсумаваў выступоўца. -- У цэлым – гэта сьвежае сьветлае слова ў нашым мастацтве. Алег Аблажэй мастак, які стварае карціны і піша глыбокія, напоўненыя духам і пачуцьцём вершы, друкае мастацтвазнаўчыя артыкулы. Ён мае сваю філасофію мастацтва і ёсьць па сутнасьці – мысьляр, якога цікавяць катэгорыі чалавечага існаваньня. Ён перакананы, што красе належыць вечнасьць, і дзеля гэтага трэба тварыць.

Творчы чалавек (паэт, мастак, кампазытар) належыць тым часам усёй нацыі, гэта ёсьць наш скарб. Творчых людзей мы павінны шанаваць, ствараць ім умовы, прапагандаваць іх і берагчы, незалежна ад абставінаў, якія здараюцца ў нашым жыцьці, -- скончыў сваю прамову Зянон Пазьняк.

Свае думкі пра мастака выказала **Валянціна Трыгубовіч**, якая знаёмая з творчасьцю А. Аблажэя даўно, успомніла пра сваё першае знаёмства зь ім на Дзяды-88 і адзначыла, што Алег – ня толькі добры мастак, але адначасова грамадзянін сваёй краіны Беларусі. “Гэты чалавек – частка беларускага мастацтва. Пры гэтым ён мае мэдаль за адвагу і самаахвярнасьць у абароне летувісцкай незалежнасьці 20 гадоў таму, калі быў ля тэлевежы 13-га студзеня, дзе савецкія танкі душылі летувісцкую незалежнасьць, -- падкрэсьліла выступоўца. -- Імкненьне да



*8. Абмеркаваньне выставы. Зь лева на права: Галіна Пазьняк, Зянон Пазьняк, Алег Аблажэй.*

чыстага, сьветлага ў ягоным мастацтве сьведчыць, што гэта ўсё ёсьць у ягонай душы. Мы яго любім і шануем.”

На імпрэзе гэтаксама выступілі **Сяргей Капытка**, **Ганна Сурмач**, **Расьціслаў Гарошка**, **Уладзімер Цяліца**, **Галіна Пазьняк**, якія таксама адзначылі высокі эстэтычны ўзровень мастака, падзяліліся сваімі ўражаньнямі ад вершаў-подпісаў да карцін зь іх высакароднай філасофіяй, казалі пра дух беларускасьці, адлюстраваны ў мастацкіх творах, якія “дыхаюць” Беларусьсю. У карцінах Алега Аблажэя ўбачылі гледачы і добрыя дызайнэрскія распрацоўкі, ягоны дызайнэрскі талент у праектаваньні адзеньня.

**Алег Аблажэй** у слове-адказе падзякваў за запрашэньне, за прыхільнасьць, за падарункі. У сваю чаргу ён перадаў спадару Гарошку падарунак для беларускай царквы – выяву нараджэньня Ісуса Хрыста, зробленую хораша і прыгожа.

Мастак паказаў шматлікія слайды свайго мастацкага жывапісу, мастацкіх цыклаў, алегарычныя творы, партрэты, строі, якія ён праектаваў, жывапісныя краявіды з натуры, сэрыю шаржаў і карыкатур.

Прысутныя выказвалі сваё задавальненьне, падзяквалі за зробленую выставу і пажадалі Алегу Аблажэю творчых посьпехаў, каб яго творчасьць разьвівалася і прыносіла яму задавальненьне.

***Марыля Якушэвіч***

# ПЕРАКЛАДЫ НА ПАЛЬШЧЫЗНУ З “ГЛЁРЫІ ПАТРЫІ”

Наш беларуска-польскі прыяцель і перакладчык беларускай літаратуры Чэслаў Сэнюх даўно пераклаў колькі тузін вершаў з “Глёрыі Патрыі” Зянона. Да нашага сораму, нажаль, мы да гэтага часу не сабраліся іх надрукаваць. Цяпер хочам часткова выправіць гэты недахоп і друкуем некалькі перакладаў на польскую мову.

**MODRZEW**

Letnim świtem
Otwieram okno na wschód.
Niebo różowieje nad lasem.
Ciemne olchy
                płyną we mgle
Nad doliną Gawii.
Nieporuszone stoją modrzewie.
Tylko słychać
Jak z góry osypuje się igliwie
Szeleszcząc
                po szorstkim pniu.

*1982.*

**W PUSZCZY NALIBOCKIEJ**

Czysta izba
Z oknami na las.
Dzień jesienny.
Tutej tylko piec kiurów.
Cisza.
Piszę
O chwilach miłych.
Ziemio Ojczysta!
Kocham ciebie nawet chorą
Nie porzucę ciebie
Nawet zniesławionej.
Z tobą mi nie umierać.
Ty i ja żyć będziemy wiecznie
I odbudujemy nasz pałac,
Świątynię naszą nad wietrznym jeziorem.
Hej, wietrze! Napinaj żagle?
Nieś do ludzi miłość moją.

*1993.*

* * *

Nieświadomi przyszłych losów
Patrzymy sobie w oczy.
Uśmiechamy się.
– Źle mi było bez ciebie.
Czy tobie też? –
I cieszymy się,
Że nam obojgu źle było.

**BRAMA**

*(Z cyklu „Przypowieści”)*

Stanąłem przed bramą,
Gdzie jeździec w zbroi z mieczem
Strzegł niewiadomego.
Zdumiała mnie mnogość
Bezimiennych mogił
Przed niekończącym się murem.

Pomyślałem, że to cmentarz
I przeszedłem przez bramę,
Żeby popatrzeć i wrócić.

Nie myliłem się.
Był to cmentarz.

Zobaczyłem krzyż
Z moim nazwiskiem,
Bez epitafium.

Koło krzyża siedział mężczyzna,
W którym rozpoznałem siebie.

„Po co tu przychodzisz
Z pustymi rękami? –
Spytał mnie zdziwiony ja. –
Twoje miejsce przed bramą”.

Ja podałem mnie rękę i powiedziałem:
„Cześć, Zianonie.
Cóż mogłem tu przynieść
Oprócz swoich rąk?”

Poszliśmy, żeby powrócić,
Bo każdy z nas zrozumiał,
Że nie ma tu nic do roboty
Z pustymi rękami.

*1981.*

**CELA W DOMU BERNARDYNÓW**

*(Z cyklu „Miensk”)*

Małe okienko w grubiźnie muru.
Za nim ulica.
Dawniej siedział tu mnich bernardyn
I widział – jak ja –
Ślepą ścianę przed sobą.

**ZIMA**

Śnieg pada już,
A w myślach – jam w dalekim kraju,
Gdzie mgła się ściele
                nad niebieską ziemią
I z dzikiej róży spływa
                łza srebrzysta
Na mury ruin starożytnych.
Śnieg pada już.
Zawieje huczą
                w kominie mroźną nocą.
Tężeje mróz.
Pękają słupy, drzewa
I z nieba roje gwiazd spadają
                zimową nocą
Na mury ruin starożytnych.

## ZIMOWĄ MROŹNĄ NOCĄ PATRZĘ W NIEBO GWIAŹDZISTE

Zimową jasną nocą,
Gdy wszystko śpi
I cisza stoi nad światem,
Posłuchaj
Jak gwiazdy brzęczą –
Jak skrzydełkami koniki polne.
To głos wieczności,
Gdzie każda dusza
Ma swoją gwiazdę.
Wpatruję się,
Wsłuchuję się –
I nie znajduję.
Tylko to brzęczenie,
Niby skrzydełek koników polnych.
I cisza nad światem.

## * * *

Szukałem ciebie, kochana,
Całe życie.
Myślałem,
Że się spóźniłaś
I byłem rad,
Że doczekałem się.
Później dopiero zrozumiałem,
Że to ja
Beznadziejnie się spóźniłem.

*1982.*

## CIEMNY CHUTOR NA UBOCZU

Skisła pleśń i garbus-gęgała.
Żonka ładna i młoda.
Drapieżny wzrok.

## IDĘ NA PIECHOTĘ

Noc zaskoczyła mnie na drodze.
Turkot wozu. Głosy w ciemności.
Poprosić, żeby podwieźli, czy co?

## GROCH KWITNIE

Co za cud:
Milion liliowych motylków!
A to pole grochowe.

## ODGŁOSY DESZCZU

Deszcz bębni w okno
Całą noc.
Tak przyjemnie zasnąć nie daje.

## DNI BIEGNĄ

Rozkwitają wiśnie
Tak jak wczoraj...
A przyjacielowi
Włos posiwiał.

## UMARŁ CZŁOWIEK

Słychać lament. Drzwi otwarte.
Śliwy kwitną.
Milczę.

## POCHWALONY RYCERZ

Pochwalony klon
Pod ulewą lipcową –
Niezawodne schronienie
Żebraka.
Pochwalony
Rycerz na szlaku
I jego koń
Zlotogrzywy, ognisty
Pochwalony.
I Wilno moje
Bądź po trzykroć
Pochwalone!
Pędź, rycerzu!
Ścigaj zdradę!
Leć, rycerzu,
Pod dźwięki Pogoni!
I nieś nam wolność.

*24.08.1988.*

## „PRZYJACIELE”

Na skrzyrzowaniu trzej wrogowie
Zastąpili mi drogę i grozili:
– Zabijemy cię, Zianonie!
Ale nadszedł mój przyjaciel
I wrogowie zamilkli.
Przyjaciel zobaczył,
Że wrogów jest trzech,
I powiedział:
– Zabiją nas obu –
I przeszedł na ich stronę.
Tymczasem nadszedł
Drugi przyjaciel.
Zobaczył, że ich jest czterech
I powiedział:
– Musisz mnie zrozumieć –
I przeszedł na stronę czterech.
Niebawem spotkał mnie
Trzeci przyjaciel.
Ale zobaczył ich pięciu
I przebiegł bez słowa do pięciu.
Wtedy powiedziałem do przyjaciół:
– Patrzcie: ich trzech i was trzech,
A ja czwarty,
Pozwolicie wrogom
Zabić waszego rodaka?
– Nie pozwolimy! –
Krzyknęli gromadnie przyjaciele.
I wrogowie odstąpili.
Tak rozeszliśmy się
Z tego skrzyżowania:
Wrogowie – w swoją stronę
My – w swoją.
Ale od tamtej pory
Jestem bardzo ostrożny

Z przyjaciółmi
Do pierwszego
Skrzyżowania.

*1983.*

**BOŻE NARODZENIE**
**MEGO DZIECIŃSTWA**

Chyli się słońce za sad wiśniowy,
Iskrzą się zaspy w różowym świetle,
Promienie kładą się na śnieg
A pod drzewami już gęstnieje cień.
I mróz tężeje. Potrzaskuje w słupach.
Zachrapał w stajni koń nad cebrem owsa.
Powiało ciepłem ludzkich siedzib,
Huczy żywicą piec rozgrzany,
Głosy za oknem –
I drogich gości pełen dom.

# НОВЫЯ КНІГІ

### “Цяжкі час; “Дэклярацыя – першы крок да незалежнасьці”; “Дэпутаты Незалежнасьці”; “Цяжкі час -- Працяг”

У нядзелю 27 лютага 2011 г. у Нью-Ёрку адбылася прэзэнтацыя новых кніг Зянона Пазьняка, выдадзеных у 2010 годзе. Напачатку мінулага года тут была прадстаўлена кніга ***“Цяжкі час. Канцэпцыя новага беларускага Адраджэньня. Кніга 2 (1996-2002 гг.)”***

У красавіку і ліпені-2010 выйшлі кнігі ***“Дэклярацыя – першы крок да незалежнасьці”*** і ***“Дэпутаты Незалежнасьці”*** (напісаная разам з Сяргеем Навумчыкам). А ў канцы года выйшла трэцяя кніга канцэпцыі **“Цяжкі час. Працяг”.** (Агулам другі і трэці тамы -- 940 старонак фармату А-4.) Калі пералічыць гэтую працу (чатыры выданьні) на аўтарскія друкаваныя аркушы, то разам з ілюстрацыямі атрымліваецца 240 аўтарскіх друкаваных аркушаў. Па аб’ёму гэта праца савецкага акадэмічнага навукова-дасьледчага інстытуту за некалькі гадоў.

Уся праца рабілася ў гонар 20-годдзя незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, якое прыпадае ў гэтым годзе на 25 Жніўня – выдатная дата беларускай гісторыі.

### “Сэсія Незалежнасьці”

У жніўні ў Варшаве вышла новая кніга Зянона Пазьняка “Сэсія Незалежнасьці”, пасьвечаная 20-годдзю Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. У кнізе акрамя тэксту аўтара зьмешчана факсіміле стэнаграмы Сэсіі Вярхоўнага Савета, на якой была аб’яўлена і канстытуцыйна зацьверджана Незалежнасьць Беларусі, перападрадкаваныя саюзныя міністэрствы, ведамствы, прадпрыемствы, лясы і нетры, уся сістэма гаспадаркі, эканомікі і кіраваньня ва ўласнасьць і распараджэньне незалежнай дзяржавы Беларусі.

У дадатку да кнігі зьмешчаныя некаторыя архіўныя фота і дакументы. Ніжэй падаем бібліяграфічную картачку кнігі:

**Зянон Пазьняк. СЭСІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ. Выданьне: “Беларускія Ведамасьці”,**

Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, Варшава--Нью Ёрк--Вільня, 2011. -- 376 с., іл.,

(Фармат А4). Наклад 1000 асобнікаў. У кнізе аўтарскія артыкулы, матэр’ялы і стэнаграмы







***9-10. Вокладкі кніг: “Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў”; “Сэсія Незалежнасьці”.***

Нечарговай пятай сэсіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 12-га скліканьня (24-25 жніўня

1991 года), на якой аднагалосна была аб’яўлена Незалежнасьць Беларусі, шляхам наданьня

Дэклярацыі аб суверэнітэце статуса канстытуцыйнага закона

і спынена дзейнасьць камуністычнай партыі (КПБ-КПСС).

Кніга разьлічана на гісторыкаў, палітыкаў і шырокага чытача.

ISBN 978-9955-578-15-4
UDK 323(476)(091)
Pa 454







***11-12. Вокладкі кніг: “Беларусь – краіна ў цэнтры Эўропы”; “Пасьвячэньне ў Беларусь”.***

### Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў

Гэта адбітак (брашура) аўтарскага тэксту з кнігі “Сэсія Незалежнасьці” зь невялікімі папраўкамі і дадаткамі. Выданьне: “Беларускія Ведамасьці”, -- 2011 г.

### “Пасьвячэньне ў Беларусь”

У Італіі вышла кніжка Зянона Пазьняка “Пасьвячэньне ў Беларусь” (Omaggio alla Bielorussia). Пераклады тэкстаў, вершаў на італьянскую мову і рэдактуру кнігі зрабіў Валеры Буйвал. Прадмову напісаў Дарыё Фэрціліё. У кнізе зьмешчаныя працы Зянона Пазьняка з 2005 года (“Беларуска-расейская вайна” і інш.), а таксама вершы з цыклаў: “Дарога ў Вялікае Княства”, “Вечныя каштоўнасьці”, “Месяц”, “Дом”, “Радыяцыя”, і інш.

Кніжка выдадзеная ў Мілане ў выдавецтве “Бібліятэка Альбатрос” з ініцыятывы “Камітэта Свабоды”. У кнізе 134 старонкі ў 1/16 аркуша (А5).

### “Беларусь – краіна ў цэнтры Эўропы”

Вялікая задача і місія беларускай інтэлігенцыі ёсьць гістарычнае асьветніцтва народа. Нацыянальная асьвета найперш павінна быць ськівавана на верхнія адукаваныя актыўныя пласты грамадзтва і на моладзь. Асабліва такое асьветніцтва патрэбнае ў краіне, дзе акупацыйным рэжымам і антынацыянальнай уладай зьнішчаныя нацыянальная школа, нацыянальнае радыё і тэлебачаньне, нацыянальныя кнігі і вольны друк.

Але разам з тым ёсьць яшчэ адна вобласьць дзейнасьці, якая мае вялікае значэньне ў міжнародным статусе і палітыцы дзяржавы. Гэта інфармаваньне міжнароднай супольнасьці, іншых краінаў і народаў аб нашай гісторыі і культуры, аб нашым гістарычным месцы ў сістэме сусьветнага культурнага разьвіцьця.

Гэтакай працай павінна займацца ня толькі эміграцыя, але і беларусы ў Бацькаўшчыне, асабліва злучаныя ў розныя нацыянальныя арганізацыі, фонды, партыі і таварыствы, нягледзячы на цяжкі стан, этнацыд і перасьлед за слова.

Перада мной кніжка (255 старонак фармату А-5) ***Валеры Буйвала* “La Belarus. Un paese nel centro dell’ Europa” (“Беларусь – краіна ў цэнтры Эўропы”)**, якая толькі што выдадзеная ў Італіі ўнівэрсітэтам у Пэруджы. У кнізе з навуковых беларускіх пазыцыяў асьветлены важныя этапы нашага гістарычнага разьвіцьця і культурныя дасягненьні. Тут распавядаецца італьянцам пра беларускую тэрыторыю і народ, пра прыняцьце Хрысьціянства і змаганьне з ворагамі, пра Люблінскую Вунію і Патоп XVII-га стагоддзя (“Вялікую катастрофу”), пра імпэрскую палітыку маскоўшчыны і змаганьне з агрэсыўным Усходам; асьветлены таксама час нашай найноўшай гісторыі XX-га стагоддзя (найперш – 90-я гады), дзейнасьць Народнага Фронту, здабыцьцё незалежнасьці і змаганьне за пабудову Беларускай незалежнай дзяржавы.

Як мастацтвазнавец і гісторык мастацтва Валеры Буйвал зь веданьнем расказаў у кнізе пра эстэтычную сутнасьць і дасягненьні беларускага мастацтва, найбольш спасылаючыся на культуру Рэнесансу і Барока, калі быў сапраўдны росквіт (залаты час) беларускага мастацкага духу.

З вопыту дачыненьняў мы ведаем, што італьянцы пасьлядоўна прыхільныя справе нашай беларускай незалежнасьці і свабоды (і ўвогуле прыхільныя да нас, беларусаў). Мяркую, што кніжка Валеры Буйвала ўмацуе іх у іхнай прыхільнасьці (дарэчы, узаемнай) і паспрыяе нашым добрым стасункам у сьвеце.

*20 ліпеня 2011 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

### Прага

**У Празе адбылася прэзэнтацыя новай кнігі, выдадзенай Зянонам Пазьняком – “Сэсія Незалежнасьці”. Прэзэнтацыя адбылася ў вялікай ў залі клюбу “Krásný ztráty”, на сустрэчу прыйшлі некалькі дзясяткаў беларусаў, якія жывуць у Чэхіі.**

Прадстаўляючы новую кнігу, Пазьняк сказаў, што ў ёй адлюстравана вызначальная ў найноўшай гісторыі Беларусі падзея – пятая надзвычайная сэсія Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., якая надала Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнай сілы. У кнізе зьмешчана поўная стэнаграма сэсіі, якая, заўважыў Пазьняк, сёньня практычна недаступная нават для для дасьледчыкаў.

“Давялося зьбіраць гэтую стэнаграму па частках, аднак у выніку яна прадстаўленая тут цалкам. Чытаецца сёньня як вострасюжэтны раман, – сказаў Пазьняк. – Ёсьць выказваньне, што “палітыка – гэта мастацтва магчымага”. Падаецца, што майстэрства палітыка якраз у іншым: каб зьдзейсьніць немагчымае. Тое, што адбылося 20 гадоў таму, калі невялікімі сіламі ўдалося здабыць Незалежнасьць (мы фактычна прымусілі камуністаў галасаваць за нашыя прапановы), сёньня ўспрымаецца як цуд. Але гэта была прадуманая, распрацаваная і выверaная палітычная тактыка”.

***Радыё Свабода (29.08.2011)***




*13. Вокладкі кніг: “Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці”; “Дэпутаты Незалежнасьці”.*

### Варшава

15 верасьня ў Палацы навукі і культуры ў Варшаве адбылася прэзэнтацыя апошніх новых кніг Зянона Пазьняка. Прысутныя (больш за 120 асобаў) задавалі шмат пытаньняў і і выявілі цікавасьць ня толькі да зьместу кніг, але і да праблемаў бягучай палітыкі.

***-Інф-***

## ПРЭЗЭНТАЦЫЯ-2011, РАЗМОВА ПРА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

***(28 лютага 2011 г.)***

У Нью-Ёрку ў беларусаў склалася добрая традыцыя зьбірацца разам на прэзэнтацыю кніжак, якія выдае Зянон Пазьняк. У 2010 г. (акрамя часопісу “Беларускія Ведамасьці”, артыкулаў і г. д.) Зянон Пазьняк выдаў 4 кнігі, якія адлюстроўваюць палітычныя працэсы ў Беларусі: “Цяжкі час”(том 2), “Цяжкі час. Працяг” (том 3), “Дэпутаты незалежнасьці” (напісана сумесна з Сяргеем Навумчыкам) і брашуру “Дэклярацыя. Першы крок да незалежнасьці”. Прэзэнтацыя 2-га тому “Цяжкага часу” была ў пачатку 2010 года. Прапанова астатніх трох кніжак адбылася 28 лютага гэтага года.

2011 год беларускай дэмакратычнай супольнасьцю аб’яўлены годам Незалежнасьці. І гэтыя кніжкі, як кажа аўтар, -- спроба асэнсаваць найноўшую гісторыю Беларусі, спроба адлюстраваць тэорыю і практыку новага Беларускага Адраджэньня.

За 10 гадоў Зянон Пазьняк выдаў 15 кніжак. Выдадзеныя раней “Нацыянальныя каштоўнасьці”, “Беларуска-расейская вайна”, “Новае стагоддзе” і інш. сёньня патрабуюць паўторнага выданьня. Яны запатрабаваныя ў грамадзтве, бо даюць зьвесткі аб гісторыі нашай барацьбы за волю і незалежнасьць, якой усяго толькі 20 гадоў, але якую цяпер затаптваюць і нішчаць. (Да прыкладу, стэнаграмы сэсіяў Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня -- пяць гадоў дзейнасьці Апазыцыі БНФ у ВС -- татальна вынішчаны рэжымам.)

Трэці том “Цяжкі час. Працяг” ахоплівае пэрыяд з 2003 па 2010 гг. “Мы займаемся палітычнай дзейнасьцю, асэнсоўваем тое, што было зроблена і што робіцца зараз -- кажа З. Пазьняк. -- У межах гэтай дзейнасьці зьяўляюцца артыкулы, якія даюць адказы на пэўныя пытаньні. Яны адлюстроўваюць ход часу, ход барацьбы. Таму крок да асэнсаваньня гэтай тэорыі – гэта сумяшчэньне палітычнай практыкі, асэнсаваньне і падсумоўка гэтай практыкі. Кніжкі складаюцца з тых артыкулаў і дакумантаў, якія істотныя для нашай праблемы.”

Першая частка трэцяга тома – гэта ў асноўным артыкулы аўтара; другая (“Дадатак”) складаецца з розных матэрыялаў. Такая канцэпцыя ўсіх трох кніжак (“Развагі” і 2-х тамоў “Цяжкога часу”).

У сваіх кнігах аўтар заўсёды выкарыстоўвае шмат ілюстрацыйнага матэрыялу, бо фатаграфія, на думку аўтара, можа “сказаць” вельмі шмат.

Тут зьмешчаны фатаграфіі зь нямецкага Бундэсархіву, якія на нядоўгі час зьявіліся ў Інтэрнэце, фатаграфіі з акупацыйнага Менска (нават унутраныя здымкі ў доме Кубэ). “Я даў іх тут, -- кажа З. Пазьняк, -- бо канцэптуальна наш падыход да камунізму і да нямецкага фашызму – аднолькавы. Яны вырасьлі з марксізму. Іншая справа, што адны рабілі стаўку на сацыяльную аснову, а другія – на нацыянальную. Але па сутнасьці – адны і другія рабілі генацыд (чырвоныя вынішчалі па сацыяльнай, ідэалягічнай прыкмеце, а карычневыя – па расава- нацыянальнай. Вось і ўся розьніца паміж двума сацыялізмамі. Я стараўся паказаць і гэты аспэкт нашай гісторыі і як ён уплывае на сучаснасьць.”

Канцэптуальныя ідэі і факты аўтар заплянаваў на 4 тамы. “Я выкарыстоўваў тут ня толькі такія рэчы, якія ўзьдзейнічаюць на логіку, на інфармацыю, я даваў і некаторыя свае вершы пад пэўную палітычную фактуру, мяркуючы, што яны дапамогуць некаторым людзям адчуць яе глыбей. Гэты прынцып ва ўсіх трох кніжках, якія выйшлі,” -- дадаў З. Пазьняк.

Нумарацыя 3-га тому “Цяжкога часу” пачынаецца як працяг 2-га тому. У пачатку даюцца цытаты з выказваньняў рускай гэбоўскай эліты, дзе адкрыта і проста сказана, для чаго ім патрэбен “рускі рубель” на Беларусі, дзе адлюстравана пазыцыя расейскай палітыкі аншлюсу нашай краіны. 200 гадаў яна не мянялася, і пры любой уладзе яна застаецца такой, незалежна ад асобаў у расейскім кіраўніцтве.

Кнігі “Дэпутаты Незалежнасьці” і “Дэклярацыя. Першы крок да незалежнасьці” – выглядаюць як прынцыпова іншая выдавецкая канцэпцыя: маленькі фармат прадыктаваны зручнасьцю ў карыстаньні. “Іх можна пакласьці ў кішэню, чытаць у любым месцы і, што вельмі істотна, -- каб лягчэй было іх транспартаваць праз мяжу”, -- патлумачыў аўтар.

У 2011 годзе спаўняецца 20 гадоў, калі Беларусь аднавіла незалежнасьць і стала незалежнай дзяржавай Рэспублікай Беларусь. Аўтар успамінае, колькі жыцьцяў пакладзена за 200 гадоў барацьбы. “Толькі за XIX-е стагоддзе – 5 паўстаньняў! Гэта тысячы жыцьцяў, прытым лепшых людзей, гінула нацыянальная эліта. Яна была вынішчана, выразана пасьля падаўленьня паўстаньняў. Працяг вынішчэньня ў XX-м стагоддзі быў яшчэ страшнейшы. Сталіншчына – вынішчала людзей, якія патэнцыяльна маглі ствараць эліту. Спробы, здабыцьця незалежнасьці, якія былі ў XX стагоддзі, не прывялі да рэальнага выніку. Альбо людзей забівалі, альбо ссылалі ў ГУЛАГ. Шматлікія беларускія змагары, якія займаліся толькі палітыкай, мелі юрыдычную адукацыю, былі “стрыкт-палітыкамі – гэтыя людзі не дасягнулі незалежнасьці. Яны зрабілі шмат, але былі зьнішчаны.

Прарыў адбыўся ў 1918-м годзе – ***Беларуская Народная Рэспубліка***. Але яе таксама зьнішчылі. Беларусь ня стала дзяржавай. І толькі ў 1991 годзе ўдалося стварыць незалежную дзяржаву ў поўным сэнсе слова (з войскам, з амбасадамі, межамі, з сваім урадам, грамадзянствам, сваімі грашыма, са сваім усім).

(Не ўдалося, аднак, дасягнуць ўлады для нацыянальна-вызвольных сіл. Як вынік гэтага, мы маем цяпер антыбеларускі рэжым і перажываем унутранную акупацыю нашай краіны.)

...Дык вось, -- працягвае Зянон Пазьняк, -- 1991 год – гэта час, калі 200-гадовае змаганьне рэальна завяршылася стварэньнем незалежнай дзяржавы. У 1991-м годзе стварыўся незвычайны зьбег абставінаў і характарызаваўся ён тым, што барацьба за ўладу ў Расеі разьдзялілася на дзьве часткі: Ельцын і Гарбачоў. У жніўні ў Расеі адбываецца камуністычны путч, які хутка праваліўся. Масква тады была занята сабой. Ёй было не да нас. Гэты момант мы выкарысталі на 100 адсоткаў, дзякуючы таму, што мелі свой арганізаваны палітычны авангард – дэпутацкую Апазыцыю БНФ у Вярхоўным Савеце.

Калі б мы ня мелі такога авангарду ў парляманце, мы б ня мелі незалежнасьці, бо пытаньне вырашалася там, у Вярхоўным Савеце. Гэта, як кажуць, шчасьце, што ў нас была такая сіла, што была група, добра арганізаваная, якая мела ідэю, была аб'яднаная, якая выкарыстала палітычны час да секунды і разумела, што яна робіць і чаму гэта трэба рабіць.

Сёньня нішчыцца адкрыта ўсё беларускае, усе заваёвы 1991-га. Але сытуацыя такая, што адкрыта зьнішчыць дзяржаву рэнегаты ва ўладзе ня могуць, таму што НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ вышэй за ўладу. Незалежнасьць – гэта зьява, якая дыктуе паводзіны нават гэтаму рэжыму.




*14. Вокладка кнігі: “Цяжкі час. Працяг”, т. 3.*

Вялікае сьвята -- 20-годдзе Незалежнасьці -- гэтая ўлада з усіх бакоў стараецца затаптаць. Пра Жнівень 25-га не выкладаецца ні ў школах, ні ў афіцыйнай гісторыі, гістарычныя факты перакручваюцца. Зьяўляюцца розныя людзі ненавуковага кшталту, якія пішуць, што, маўляў, “незалежнасьць звалілася зь неба”. Не было, не было – раз, і звалілася. Гэта дэбільная “інфармацыя” пранікае ў слабыя розумы і ўтварае ў іх пустату. Людзі ня ведаюць, што было 20 гадоў таму. Такая зьява небясьпечная. Гэта паталогія, грамадзкая хвароба, якая можа скончыцца ўпадкам дзяржавы.

І таму была задумана кніжка (“Дэпутаты Незалежнасьці”) спэцыяльна да 20-годдзя Незалежнасьці, дзе асноўная задача была – расказаць пра тое, як дэпутацкая Апазыцыя Народнага Фронту змагалася за незалежнасьць Беларусі.

Тут дадзены фатаграфіі і жыцьцяпіс кожнага дэпутата Апазыцыі БНФ. Ад іх вельмі шмат залежыла. Яны, фактычна (можа некаторыя нават не ўсьведамляюць гэтага), сталі людзьмі нашай нацыянальнай гісторыі. Гэтых дэпутатаў нацыя будзе памятаць заўсёды. Іх трэба памятаць, яны ўвайшлі ў той час і ў нашу гісторыю.

Я перакананы па ўласным вопыце, што палітык толькі тады становіцца добра на ногі і ўсьведамляе сутнасьць палітычных працэсаў, калі пройдзе праз парлямант. Гэта вельмі вялікая школа. І дзесьці ўжо праз год працы і змаганьня ў Вярхоўным Савеце мы мелі эліту нацыянальнай палітыкі.

У гэтай кніжцы (акрамя ролі дэпутатаў) апісаны працэс барацьбы, як гэта адбывалася; я паспрабаваў адказаць на істотнае пытаньне, якое цікавае для нас усіх, і канешне ж, будзе цікавае для людзей, якія стануць займацца паліталогіяй, гісторыяй палітыкі: як можна было перамагчы? З гледжаньня фармальнай логікі і арыфмэтыкі немагчыма растлумачыць, як можа група дэпутатаў (27 чалавек) дыктаваць сваю палітыку Вярхоўнаму Савету, дзе 345 чалавек, і практычна ўсе – камуністы.

Фармальная палітычная логіка адказу ня дасьць. Рацыяналісты скажуць, што гэтага ня можа быць, таму што гэтага быць ня можа. Але гэта было.

гэта зрабілася. Гэта сталася. Гэта рэальны факт. У кнізе даецца адказ, як яно рабілася, і чаму так сталася.

Мы прышлі да высновы, што нам трэба выкарыстаць асобую тактыку, улічыць іхныя (камуністаў) недахопы і свае перавагі.

Нашыя перавагі -- гэта наш інтэлект (мы былі інтэлектуальна вышэйшыя за камуністаў), і падрыхтаваны былі лепей; мы валодалі нацыянальнай ідэяй, якая нас аб'ядноўвала, мы здолелі стварыць дысцыплінаваную арганізацыю. Дэпутаты-франтаўцы навучыліся, што калі прынялі рашэньне, -- то дзейнічаць так, як дамовіліся (нават, калі нехта зь нечым ня згодны).

Мы разьмяркоўвалі тактыку на кожны дзень, кожны дзень па два разы зьбіраліся (вечарам падсумоўвалі нашую працу). Істотным у нашай фракцыі было і тое, што людзі гарэлі працай і барацьбой.

Гэтаксама мы прааналізавалі недахопы камуністаў. У іх не было глыбокіх ведаў. Іхная арганізацыя была шматлікай, але субардынаванай і лянівай. Яны былі больш адміністратарамі і гаспадарнікамі, чым палітыкамі, прывыклі выконваць загады начальства і мала думаць галавой.

У нас заўсёды была адна звышзадача: прымусіць гэтых людзей галасаваць у нашых інтарэсах, бо перамагчы іх мы маглі толькі іхнымі ж галасамі. Здаецца, што задача тут амаль авантурная, але мы яе паставілі, распрацавалі тактыку і дасягалі вынікаў.

Ўжо на першых сэсіях мы падрыхтавалі некалькі дзясяткаў законапраектаў, прытым на высокім узроўні (эканамічныя рэформы, банкаўская сістэма, фінансы і г. д.).

Камуністы адкідаюць нашыя законапраекты -- але вымушаныя абавязаць камісіі распрацоўваць такія самыя законы. Такім чынам мы іх прымусілі працаваць, даўшы ім сваю "матрыцу" і тэматыку працы (нашу тэматыку). Прыкладам, мы прадставілі закон аб грамадзянстве – і яны (адкінуўшы наш праект) пішуць свой тэкст закона аб грамадзянстве. Мы прадставілі закон аб банкаўскай сістэме – і яны адкідаюць наш і пішуць свой; мы прадставілі закон аб Чарнобылі – і яны насуперак нам пішуць... Яны пішуць сваё, але ўжо пад нашу тэматычную ініцыятыву. А мы можам уплываць, мы можам ісьці ў любую камісію і зь імі працаваць, і гаварыць свае аргумэнты, а потым у час абмеркаваньня на Сэсіі перамагчы іх у дыскусіі, заблытаць (засаніць чуйнасьць), дамагчыся патрэбных нам фармулёвак асобных артыкулаў.

Некаторыя з найбольш бэтонных камуністаў, не разьбіраючыся ў словах, адчувалі містычную падазронасьць і жах перад нашымі выступамі ды фармулёўкамі. Каб не памыліцца, яны галасавалі дакладна наадварот усяму таму, што мы казалі. Пазьней мы гэтую іхнюю звычку эфэктоўна выкарыстоўвалі, памяняўшы (уяўна, знарок) плюсы на мінусы і дэзарыентаваўшы такім чынам іхнюю сьведамасьць пры галасаваньні. (Не разумеючы, яны галасавалі так, як мы хацелі, думаючы адначасна, што топяць БНФ.)

З самага пачатку ў Апазыцыі было зразумела, што трэба наладжваць харошыя людзкія адносіны з усімі дэпутатамі. Так, мы камунізм крытыкуем, але ў міжлюдзкіх адносінах – чалавеку павага. Не зьневажаць дэпутата словам. Я за гэтым вельмі сачыў, бо камуністаў было ў дзесяць разоў болей. Нам патрэбныя галасы. Мы павінныя былі выйграваць, а не ствараць сабе дадатковых цяжкасьцяў і асабістых ворагаў.

Потым ужо камуністы ўбачылі, што пастаянна цярпяць паражэньне за паражэньнем, яны пачалі арганізоўвацца. Утварылася камуністычная група "Беларусь" (кіравалі Кебіч і Казлоўскі). І тады нам стала цяжка.

Мы зьмянілі тактыку і ўсю работу накіравалі на выбаршчыкаў. Мы езьдзілі па ўсёй Беларусі, сустракаліся зь людзьмі і агітавалі. Задача была – зваліць урад Кебіча. Фактычна, мы яго падвесілі, пэрспэктывы ў яго не засталося.

Пра ўсё гэта ёсьць у кніжцы. Прасіў бы зьвярнуць увагу ў ёй на артыкул Сяргея Навумчыка аб адносінах заходніх лідараў, і ўвогуле – заходняй палітыкі, да Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, да незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Гэта тэма неяк ніколі не закранался, хаця нам яна была добра вядома. І вось тут упершыню вельмі добра, пасьлядоўна Сяргей Навумчык выклаў гэтую тэму. Ніхто (у тым ліку і ЗША), ніхто з заходніх лідэраў не падтрымліваў беларускай незалежнасьці. Усе яны выказаліся супраць беларускай незалежнасьці. Яны хацелі захаваць Савецкі Саюз і маліліся на Гарбачова.

У кніжцы прыведзены цытаты, іхныя ацэнкі нашай незалежнасьці. Мы тады ў Фронце ня бачылі нават замежных журналістаў. Нашая барацьба іх не цікавіла. І дзякуй Богу! Цяпер, калі падсумаваць усё – дзякуй Богу, што яны тады да нас ня ўлезьлі. І гэта адзін са станоўчых чыньнікаў, які паспрыяў таму, што нам тую незалежнасьць удалося вырваць. Вырваць адзіным фронтам. Бо калі б заходнікі ўлезьлі тады са сваімі далярамі і пачалі б рабіць свае падзелы і сваю палітыку (тое, што цяпер) -- яны б маглі нам шмат нашкодзіць (як развалілі ўсё потым, і тое, што яны псуюць у Беларусі зараз).

Незалежнасьць здабылі мы самы, ніхто нам не дапамог, мы, беларусы, гэта зрабілі, гэта наша заваёва.

Я думаю працягваць працу, падключыць да яе іншых нашых дэпутатаў. Гэта няпростая рэч прымусіць людзей пісаць, але трэба, асабліва ў год Незалежнасьці. Мы са спадаром Навумчыкам рыхтуем зараз цэлы шэраг такіх выданьняў", -- падсумаваў свой выступ Зянон Пазьняк.

Доктар **Вітаўт Кіпель**, які ўдзельнічаў у абмеркаваньні, адзначыў важнасьць такіх выданьняў ня толькі для гісторыі і культуры, але і для цяперашняга разьвіцьця палітычнай думкі ў Беларусі і ўвогуле для Беларускага нацыянальнага Адраджэньня.

Сваімі ўражаньнямі ад прачытаных кніг падзялілася **Тацьцяна Красоўская**. "Дэклярацыя. Першы крок да незалежнасьці", -- сказала яна, -- з цягам часу будзе настольнай кніжкай кожнага беларуса. А цяпер мы яе маем, маем што паказаць і сказаць людзям. Яна не дае нам забыцца на тыя часы, калі прымалася Дэклярацыя аб незалежнасьці Беларусі, на тое вялікае змаганьне за яе прыняцьцё.

Другая кніга – "Дэпутаты незалежнасьці" -- вельмі пазнаваўчая для нас кніга, у якой аўтары зафіксавалі складаныя і вострыя моманты барацьбы за наданьне Дэкляраціі канстытуцыйнага статусу.

Тут паказана як стварылася Апазыцыя ў парляманце, як выбіралі старшыню Вярхоўнага Савета, як фармаваліся змагарныя задачы Апазыцыі ў вельмі цяжкіх умовах і як дэпутаты ад БНФ перамаглі цяжкасьці. Некаторыя законы, падрыхтаваныя дэпутатамі Фронту, былі адкінутыя камуністамі, але яны ня зьніклі, яны ёсьць і яшчэ спатрэбяцца нам у вольнай Беларусі.

З кнігі мы даведваемся пра вялікую працу Апазыцыі БНФ па прыняцьці беларускай дзяржаўнай сымволікі. Я належу да пакаленьня, якое ня ведала пра Пагоню, пра Бел-Чырвона-Белы Сьцяг да 1991 г. (Сёньня, напэўна, гэта выглядае дзіўна, можа і ня верыцца нават, што людзі ня ведалі такіх "простых рэчаў", як старажытны наш Гэрб і Сьцяг. Але так было.) Затое цяпер людзі ведаюць, і пра ВКЛ, пра тое, што Літва – гэта старажытнае Беларускае княства са сталіцай Вільняй, і шмат што іншае, што ведаць неабходна беларусам.

Шмат моладзі цяпер змагаецца за беларускія ідэалы. Заваёвы тых гадоў, тых дэпутатаў Апазыцыі БНФ, Дэпутатаў Незалежнасьці, ня зьніклі, яны ўзрастуць ізноў на вялікім падмурку -- прыдзе час -- на падмурку мужнага змаганьня вялікіх беларусаў.

3-я кніга асаблівая, гэта вялікая праца, яна – падручнік па найноўшай гісторыі Беларусі. Прайшло ня так шмат год, і рэжым пачынае фальшаваць, зьмяняць сапраўдную гісторыю. Дык вось гэтая кніга – дакуманты і артыкулы той пары. Кніга называецца "Цяжкі час", але яна аптымістычная. Гістарычнаму аптымізму спрыяе ўся пабудова кнігі, у тым ліку і ілюстрацыі да яе. Яна адбівае палітычнае жыцьцё крок за крокам, з 2003 па 2010 гг. Гэта энцыкляпедыя беларускага змаганьня і беларускай рэчаіснасьці.

Калі прыглядзецца да працы "Беларуска-расейская вайна", то нават назвы разьдзелаў шмат што могуць сказаць нам -- яны складаюць паэтапную схему наступу расейскага імпэрыялізму на Беларусь, плян зьнішчэньня расткоў беларускасьці.

Матэрыял і артыкулы кнігі пераконваюць, што беларусы выстаяць і пераможуць у гэтым змаганьні, якое не прыпыняецца. Уражваюць ілюстрацыі да кнігі і вершы Зянона. Яны вельмі зьмястоўныя і дапаўняюць канцэпцыю кнігі. Такія выданьні надзвычайна важныя для нас."

